www.nv-online.info

№ 30 (3873)

18 красавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**УЧОРА**

## Сустрэліся з Макейнам

У Вільнюсе прайшла сустрэча прадстаўнікоў беларускай апазіцыі і амерыканскіх сенатараў на чале з Джонам Макейнам.

З беларускага боку на сустрэчы прысутнічалі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька,** сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Павел Севярынец**, лідар грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!" **Уладзімір Някляеў**, старшыня Беларускай сацыяльна-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Ірына Вештард** і кіраўнік Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч**. Амерыканскі бок прадстаўлялі чацвёра сенатараў ЗША.

Асноўнымі тэмамі сустрэчы сталі беларуска-амерыканскія адносіны, правядзенне справядлівых выбараў у Беларусі і вызваленне палітычных зняволеных.

## Мінус 36%

У Беларусі ў студзені-лютым 2014 года аб'ём крэдытаў на будаўніцтва і набыццё жылля знізіўся на 36,1% да аналагічнага перыяду 2013 года і склаў 1,338 трлн рублёў, паведамляецца ў аналітычным аглядзе Нацыянальнага банка. Аб'ём ільготных крэдытаў склаў 1,230 трлн рублёў, знізіўшыся на 29,2%.

**НУ І НУ!**

## «Воля народа» па-пуцінску

Дэпутаты Вярхоўнага савета Прыднястроўя ўчора прынялі зварот да ААН, АБСЕ і Расіі з просьбай аб прызнанні незалежнасці Прыднястроўскай малдаўскай рэспублікі і наступным далучэнні яе да Расійскай Федэрацыі. Дакумент адрасаваны Дзяржаўнай думе Расіі, Савету Федэрацыі, Уладзіміру Пуціну, таксама плануецца накіраваць яго ў ААН і АБСЕ.

Такім чынам, Прыднястроўе вырашыла паўтарыць лёс Крыма. Але, нагадаем, што ад Расіі гэтая тэрыторыя адрэзана Украінай, з поўдня яна блакіравана Малдовай.

Юрыдычна далучыць Прыднястроўе Расія можа па адпрацаваным на Крыме сцэнарыі, але, каб забяспечыць доступ да гэтай тэрыторыі, прыйдзецца "далучаць" таксама Нікалаеўскую і Адэскую вобласці Украіны.

У сваім звароце ўлады Прыднястроўя спасылаюцца на вынікі рэферэндуму 2006 года, якія не былі прызнаны міжнароднай супольнасцю. Але Уладзімір Пуцін учора даў зразумець, што Расія будзе кіравацца "воляй народа". "Людзям трэба дазволіць самім вырашаць свой лёс", — заявіў ён.

Паводле слоў прэс-сакратара кіраўніка Расіі Дзмітрыя Пяскова, "дакладныя тэрміны разгляду звароту Прыднястроўя пакуль не вядомыя".

## З Вялікаднем!



**Украіна і іншыя краіны праграмы "Усходняе партнёрства" могуць падаць заяўкі на членства ў Еўрапейскім Саюзе. Адзіная ўмова — каб краіны прытрымліваліся прынцыпаў дэмакратыі. Такую рэзалюцыю ўчора прыняў Еўрапарламент. Такім чынам, Еўропа адкрывае дзверы не толькі Украіне, але і Беларусі, бо наша краіна ўдзельнічае ў праграме "Усходняе партнёрства".**

**ПОЗИЦИЯ**

## Александр Лукашенко:

*— Я категорически против всяких федераций! Идиотизм полный! Что такое сегодня провести линию между Западной и Восточной Украиной? Это двусторонний инструмент, пианино: с одной стороны будет играть один специалист, с другой стороны — другой. И что мы получим? Фактически в центре Европы ситуацию, когда мощнейшее, крупнейшее государство будет дестабилизировано. Там, где бардак, вы знаете, кто туда сунется. Вы знаете, что весь хлам и мусор, боевики, бандиты и прочие, которые любят горяченькое и получить на этом деньги, соберутся там... Вот этого допустить ни в коем случае нельзя. Украину надо сохранить единым и целостным государством, как оно есть, надо все успокоить. Нельзя в этой суматохе и неразберихе проводить некие референдумы о федерализации".*

**(Из интервью ведущему Первого национального телеканала Украины Савику Шустеру.)**



"Если вы хотите сохранить Украину единым государством, а я хочу, чтобы Украина была целостным, монолитным единым государством, очень этого хочу, то не надо проводить федерализацию. Это завтрашний раскол Украины полностью, это разрушит государство... Толкать Украину на федерализацию сейчас — это очень опасно. Опасно всем: и Беларуси с Россией, и Западу".

**(Из интервью российскому телеканалу НТВ.)**

***

**Напомним, федерализация — это то, чего Россия в настоящее время добивается от Украины. Сегодня, мол, дайте некие особые права отдельным регионам, а завтра сепаратизм сам по себе расколет страну окончательно, погубит ее державность. А из осколков, как известно, легче создавать новую империю.**

**Трагедия Украины, безусловно, может аукнуться и Беларуси. И тут позиция Александра Лукашенко понятна любому здравомыслящему человеку.**

**Вот только как скоро удастся цивилизованному мировому сообществу остановить ползучую агрессию с Востока?**

**ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА**

## У шахтеров кончается терпение

Донбасс, как известно, шахтерский регион. Все это время шахтеры ни в каких акциях участия не принимали, они работали. Хотя свою позицию шахтерский профсоюз высказал однозначно: если милиция и киевская власть не справятся, мы сами дадим отпор сепаратистам. Вчера шахтеры впервые приняли участие в политическом мероприятии, делегировав своих представителей на митинг в поддержку единой Украины.

Шахтеры Донбасса не поддерживают пророссийские настроения, заявил **Михаил Волынец**, руководитель Независимого профсоюза горняков Украины и Конфедерации свободных профсоюзов Украины.

*"Горняки ни в пикетах, ни в драках не участвуют. Они вообще настроены взять "обушки" и выйти дать отпор сепаратистам. Но это не выход, чтобы шахтеры были втянуты в вооруженное противостояние, это самое страшное, что может произойти"*, — заявил Волынец.

По его словам, организаторы беспорядков, поняв, что шахтеры не на их стороне, сделали ставку на боевиков.

*"Боевики в балаклавах вызывают у жителей Донецка очень большие подозрения: кто эти люди, кем они профинансированы, какие у них цели? Тем более что события в Крыму показали, что под этими масками могут скрываться военнослужащие из другой страны... Жители региона в большинстве своем не поддерживают пророссийские настроения. К России они настроены вполне миролюбиво. Но в то же время никто не хочет гражданской войны, разорения, как в Приднестровье, где уничтожена промышленность и экономика. Небольшая группка экстремистски настроенных граждан вносит дисбаланс в нормальную жизнь целого региона и каждой семьи"*, — резюмировал Михаил Волынец.

Слова коллеги подтвердил и глава независимого профсоюза горняков Донбасса **Николай Волынко**. Лидер профсоюза считает, что конечной целью сепаратистов является "хоть какое-то, но отделение".

*"Им нужно отделение, хоть по принципу Абхазии и Приднестровья, но чтоб было. Я не вправе им давать советы, но могу сказать одно: "Чемодан, вокзал, Россия!" Пусть туда едут, а нам дадут построить независимую Украину"*, — призвал Волынко.

Именно Михаил Волынко вчера возглавил шахтеров на митинге в поддержку Украины.

*"Мне только под 60 и хотелось бы пожить, но за Украину я буду впереди всех, и мои товарищи будут вместе со мной. Достали! Идет война, а народ без оружия, но если власти не могут сопротивляться, то будем сопротивляться мы!"* — заверил Волынко.

**ЗАЯВА**

## «Пакіньце Марыупаль у спакоі!»

Сітуацыя "гарачая" ў палове гарадоў Данбаса, але трагедыяй яна ўжо скончылася ў Марыупалі, дзе ў ноч з серады на чацвер была здзейснена спроба захопу часткі ўнутраных войскаў. У выніку двое чалавек былі забіты, 15 паранены, 63 затрыманы. Марыупаль у шоку.

У сувязі з трагічнымі падзеямі дэпутаты гарсавета прынялі зварот да грамадскасці: *"На працягу апошніх двух месяцаў гарадскі галава, Марыупальскі гарадскі савет і яго выканаўчы камітэт рабілі ўсё магчымае для недапушчэння кровапраліцця. Мы ніколі не перашкаджалі правядзенню мітынгаў, неаднаразова арганізоўвалі "круглыя сталы" з удзелам палітычных партый, грамадскіх арганізацый і пратэстуючых, падчас дыялогу вырашалі ўсе спрэчныя пытанні. Сумна, што ў дні, калі хрысціяне ўсяго свету рыхтуюцца да свята Уваскрэсення Хрыстова, у нашым горадзе пралілася кроў. У Марыупалі знайшліся тыя, хто ўзяўся за зброю і падняў руку на суайчыннікаў. Атрымаўшы катэгарычную адмову на патрабаванне здаць зброю, група нападнікаў стала закідваць тэрыторыю вайсковай часці "кактэйлямі Молатава". А ў адказ на папераджальныя стрэлы ў паветра пратэстоўцы пачалі бязладна расстрэльваць тэрыторыю вакол вайсковай часці. Вынік гэтых дзеянняў — гібель і раненні людзей. Мы, дэпутаты гарадскога Савета, спачуваем сем'ям пацярпелых у выніку гэтых трагічных падзей. Як народныя абраннікі, ведаючы настроі жыхароў і выконваючы даручэнне сваіх выбаршчыкаў, мы заяўляем тым, хто захоплівае будынкі, праяўляе агрэсію і гвалт: пакіньце Марыупаль у спакоі! Вашы дзеянні ўжо прывялі да кровапраліцця, таму не чакайце падтрымкі гараджан".*

Аднак узброеныя сепаратысты будынак не пакінулі. У сваім "клопаце пра народ" яны гэтыя заклікі не чуюць.

Калі гэты нумар "Народнай Волі" рыхтаваўся да друку, з Марыупаля прыйшлі звесткі, што прызямліліся пяць ваенных верталётаў украінскіх ВПС. Мяркуючы па ўсім, рыхтавалася антытэрарыстычная аперацыя.

## ...І знойдзеце спакой душам вашым

*(З Пасхальнага паслання Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)*



Дарагія і ўзлюбленыя ў Хрысце Уваскрэслым

Праасвяшчэнныя архіпастыры, пачэсныя прасвітары і дыяканы,

набожныя інакі і інакіні, богалюбівая паства

Беларускай Праваслаўнай Царквы,

сардэчна віншую вас са святам свят — Пасхай Гасподняй!

У гэты спасіцельны для свету, светлазарны дзень мы, як і ўсе папярэднія нам з часоў апостальскіх пакаленні хрысціян, зноў і зноў з невымоўнай падзякай Богу, якая выліваецца з сэрцаў нашых, з духоўным лікаваннем вітаем адзін аднаго Пасхальным воклічам:

Хрыстос уваскрэс!

Сэрцы нашы напоўнены сёння радасцю Уваскрасення Хрыстовага. І кожны можа падзяліцца гэтай радасцю пра Уваскрэслага Госпада нашага Ісуса Хрыста — і з бліжнімі, і з дальнімі: навучыцца быць з тымі, хто навокал нас, добрымі і міласэрнымі, сумленнымі і добразычлівымі, здольнымі і гатовымі пайсці з імі на любыя выпрабаванні; сагрэць святлом Божай любові састарэлых, адзінокіх, хворых і тых, хто па нейкіх абставінах пазбаўлены магчымасці падзяліць Пасхальную радасць з тымі, хто ў храме. Такія справы хрысціянскай любові перамяняюць і нас, і навакольны свет.

Жыць паводле праўды і запаведзяў Божых — пад сілу кожнаму шчыра веруючаму чалавеку. Звяртаючыся да нас, Усемагутны Гасподзь заклікае: *"Прыйдзіце да Мяне, усе струджаныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо Я лагодны і пакорлівы сэрцам; і знойдзеце спакой душам вашым. Бо ярмо Маё прыемнае, і цяжар Мой лёгкі"* (Мф. 11: 28—30). Спасіцель свету не патрабуе ад нас нічога непасільнага. Міласэрны Гасподзь, любячы Сваё стварэнне, заўсёды з тымі, хто верue ў Яго, даючы ім моц, сілу і ўсё патрэбнае, каб несці жыццёвы крыж. Успомнім каштоўныя словы, якія Ісус Хрыстос уклаў у сэрцы ўсіх, хто ўвераваў, хто ўзлюбіў Яго, абяцаючы заўсёды быць з імі: *"...і вось, Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку. Амінь"* (Мф. 28: 20). Сёння, тут і цяпер гучаць звернутыя асабіста да кожнага з нас гэтыя словы, у якіх і надзея, і суцяшэнне...

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры, віншуючы ўсіх вас з найвялікшым святам Светлага Хрыстовага Уваскрасення, малітоўна жадаю вам невычэрпнай благадатнай дапамогі Божай у далейшым вашым служэнні на славу Святой Праваслаўнай Царквы, дзеля росквіту краіны нашай — Беларусі, на карысць і радасць усім нашым бліжнім і дальнім.

Уваскрэслы Хрыстос Спасіцель няхай умацуе нас у веры і хрысціянскай набожнасці. Благадатнае святло гэтай спасіцельнай Пасхальнай ночы няхай напаўняе сэрцы нашы любоўю ў Хрысце Уваскрэслым і радасцю яднання з Ім — радасцю чаканага намі бясконцага жыцця вечнага:

Хрыстос уваскрэс!

Сапраўды ўваскрэс Хрыстос!

## ...Каб мы жылі згодна з Божым законам

*(З Пастырскага паслання Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень 2014 года)*



Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, дарагія вернікі, людзі добрай волі!

Уваскрасенне Хрыста з'яўляецца ажыўляючым глытком свежага паветра як у нашым асабістым жыцці, так і ў адносінах паміж людзьмі, каб там, дзе дзьме вецер злосці і нянавісці, запанавала згода; дзе пануе варожасць, настаў мір; дзе прыніжэнне — пашана, і г.д. Можа, некаторым падаецца, што гэты глыток свежага паветра ў нас саміх, нашых сем'ях, адносінах паміж народамі — гэта не што іншае, як утопія. Аднак пасхальная падзея нагадвае аб тым, што гэта не ўтопія. Глыток свежага паветра на самай справе магчымы, бо ўваскрослы Хрыстус ёсць крыніцай надзеі, падобна як святло ў цемры.

Як страшна гучаць словы "без Хрыста"! Гэта як быццам надзея на жыццё, справядлівасць і мір няўмольна накіравана на правал. Як быццам не было Уваскрасення і Езус усё яшчэ знаходзіцца ў магіле. Будучы Папа Бенедзікт XVI, яшчэ як кардынал Ёзаф Ратцынгер, казаў, што Вялікая субота — гэта дзень, калі Езус знаходзіцца ў магіле. Ці гэта не сімптом нашага часу? Ці не з'яўляецца наш час Вялікай суботай і часам без Бога?

Жыццё без Бога і Божага закона; жыццё так, як быццам Бог не існуе; жыццё нязгоднае з маральнымі нормамі; тэрарызм і акты насілля; карупцыя і сацыяльная несправядлівасць; забойства ненароджанага жыцця і амаральнае выкарыстанне дасягненняў генетыкі і многае іншае — гэта не што іншае, як жудасныя знакі адсутнасці Бога ў нашым жыцці і адмовы ад веры ў Яго, якія нараджаюць пагарду і непрыманне іншага чалавека, ігнараванне яго правоў і да т.п. Таму нам неабходна ўчыніць усё магчымае, а перадусім маліцца, каб праўда ўваскрасення Хрыста стала рэальнасцю нашага жыцця, каб мы Бога не хавалі ў магіле, каб Ён быў у нашых сэрцах і каб мы жылі згодна з Божым законам, бо "Бог — наша прыстанішча і сіла, надзейная дапамога ў нядолі" (Пс 46, 2)...

Мы павінны прасіць Езуса даць нам удзел у Яго ўваскрасенні і яго моцай нас так перамяніць, каб мы маглі адчуваць Яго, як жывога і дзейнічаючага сярод нас, — як кажа Папа Францішак.

...Дарагія браты і сёстры, усе людзі добрай волі!

Сардэчна віншую вас з радасным і збаўчым святам Уваскрасення Хрыста! Сёлета Пасха святкуецца ўсімі хрысціянамі разам. У гэтым мы павінны бачыць знак Божага Провіду, які заклікае аб'яднаць нашы высілкі для сумеснай абароны хрысціянскіх каштоўнасцяў і больш моцнага абвяшчэння Добрай Навіны аб Езусе ўваскрослым.

**ЭКСПЕРТЫЗА**

*Самы распаўсюджаны прапагандысцкі штамп, якім апраўдваюцца сепаратысцкія выступленні на ўсходзе Украіны, — спасылка на Майдан. Маўляў, калі рэвалюцыя на Майдане была дапушчальнай, то і выступленні ў Данбасе — права народа. Але гэта наўмысны падман.*

## Пяць прынцыповых адрозненняў данбаскіх сепаратысцкіх выступленняў ад Майдана

1.Пратэсты на Майдане былі праявай незадаволенасці ўладай, патрабаванне змены ўлады, але яны не ставілі пад пагрозу суверэнітэт і цэласнасць Украіны як дзяржавы. Гэта не былі антыдзяржаўныя выступленні, пратэстоўцы не вывешвалі на адміністрацыйных будынках сцягі іншых дзяржаў.

Спробы стварыць Данецкую рэспубліку, атрымаць палітычную незалежнасць ад Кіева, зневажанне сімвалаў дзяржавы — герба і сцяга, звароты да Расіі з заклікамі ўвесці войскі цалкам падпадаюць пад вызначэнне антыдзяржаўных дзеянняў.

2.На падтрымку Майдана ў некаторыя дні выходзіла да мільёна чалавек, і гэта сведчыла пра падтрымку патрабаванняў Майдана з боку людзей. Ніякіх падобных масавых акцый з падтрымкай дзеянняў сепаратысцкі настроеных актывістаў ва ўсходніх рэгіёнах Украіны няма. Між тым у Харкаве — 1,5 мільёна жыхароў, Данецк — горад-мільённік, Луганск — 500 тысяч чалавек насельніцтва, Марыупаль — амаль столькі ж. У тым жа Славянску жыве больш за 130 тысяч чалавек, у Енакіеве — больш за 100 тысяч, у Краматорску — амаль 200 тысяч... Аднак "бунтуюць" у кожным з гарадоў ад пары соцень да тысячы чалавек.

3. Афіцыйныя ўкраінскія ўлады падчас Майдана не злавілі ніводнага замежнага разведчыка, ніводнага замежнага вайскоўца, якія кіравалі б дзеяннямі Майдана. Украінскія ўлады ўжо затрымалі больш за 40 расійскіх вайскоўцаў. У адказ на заявы Масквы, што ніякага кіравання дзеяннямі сепаратыстаў расійскія вайскоўцы не ажыццяўляюць, у інтэрнэце былі размешчаны копіі пашпартоў і ваенных білетаў затрыманых людзей.

4. Больш за два месяцы Майдан мірна пратэставаў, пакуль спецпадраздзяленні міліцыі не пачалі страляць па мітынгоўцах. У Данбасе пратэстоўцы адразу ўзяліся за зброю, пачалі захопліваць зброевыя склады МУС і СБУ, арганізоўваць узброеныя блок-пасты. Аж да першых стрэлаў з боку "Беркута" (19 студзеня 2014 года) удзельнікі Майдана не ўжывалі для самаабароны якія-небудзь спецсродкі або зброю. А вось цяпер у Славянску, Краматорску, Горлаўцы Данецкай вобласці мы бачым добра ўзброеных і аднолькава экіпіраваных байцоў са зброяй расійскай вытворчасці. Іх дзеянні ніяк нельга назваць мірнай дэманстрацыяй ці абаронай правоў грамадзян, паколькі самі мясцовыя жыхары ў сваёй большасці абураны дзеяннямі заезджых правакатараў, што пацвярджаюць відэаздымкі з месца падзей і сацыялагічныя апытанні.

5. У часы вострай небяспекі на Майдане прасілі жанчын пакінуць месца сутыкненняў і не дапускалі іх у эпіцэнтр супрацьстаяння. Прарасійскія сілы ў Данбасе (як і раней у Крыме), наадварот, выстаўляюць наперад менавіта жанчын, каб яны былі жывым шчытом ад антытэрарыстычных аперацый.

Народная Воля http://www.nv-online.info
18 КРАСАВІКА 2014 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# ...С пустыми руками

В Беларусь прибыла миссия МВФ с очередным дежурным визитом — чтобы оценить экономическую ситуацию и дать ценные советы. Белорусские власти понимают, что никаких предпосылок, чтобы пытаться выпросить у Фонда кредит, в экономике страны не сложилось. С начала года инфляция набрала уже 4,9% из 11 запланированных. Более того, глава Нацбанка просчитывает инфляцию на этот год "где-то 16—17%". Если брать инфляцию за 1-й квартал в годовом измерении, то в Беларуси она составила 15%, в России — 6,4%, в Украине — 1,7%.

Решающий вклад в рост цен в Беларуси внесло само государство. Коммунальные тарифы подскочили на 20%, на 23—30% — транспортные услуги. 6,2% прибавили цены на продовольствие. При самых низких ценах в СНГ на российские нефть и газ в 1-м квартале текущего года по сравнению с таким же периодом 2013 года электроэнергия подорожала в 2,1 раза, газоснабжение — на 83,5%. А население "обрадовали", что в 2015 году оно будет покрывать 100% стоимости услуг по энергообеспечению. Интересно, за счет какого роста зарплат, если динамика ВВП, промышленности и сельского хозяйства с начала года минусовая?

Не сбавляет темпы кредитования экономики банковская система. В январе Нацбанк в очередной раз поклялся ограничить рост требований банков к экономике величиной не более 0,7% ежемесячно. В феврале вышло 1,7%, и это без учета Банка развития. Только "Беларусбанк" увеличил свой кредитный портфель на 2 трлн рублей. Это почти столько, сколько было установлено для всех банков. Значит, не выполнено одно из основных условий получения последнего транша кредита от Антикризисного фонда, и он появится не раньше осени.

Не остывает кредитно-денежный печатный станок. Рублевая денежная масса с начала года выросла на 4% до 82,5 трлн рублей. Но сбережения населения, съедаемые инфляцией, такой прыти не показывают. Если судить по срочным рублевым банковским вкладам, то за март они подросли на 3,1% и на 1 апреля составили 27,9 трлн рублей. Этот прирост почти равен начисленным по вкладам процентам. Не было видно в марте и новых поступлений от населения в валютные депозиты. Они увеличились на 0,6% до 7,2 млрд долларов и приросли опять-таки за счет начисленных процентов.

Несмотря на неутихающую инфляцию, Нацбанк после десятимесячной паузы все-таки решился снизить на 1% ставку рефинансирования — до 22,5%. Это сделано явно под давлением правительства ввиду ухудшающегося состояния реального сектора экономики. Почти 20% предприятий Беларуси остаются убыточными. Сумма чистого убытка за первые два месяца составила 3,8 трлн рублей, что в 2,1 раза больше, чем за такой же период прошлого года. Даже в столице их доля 22,7%. Однако снижение ставки рефинансирования не гарантирует адекватного снижения цены кредитов банков. Они набрали рублевых депозитов под 35—40% годовых и эти проценты должны выплатить за счет процентов по кредитам. На опыте отдельных банков ("Альфа-Банк") подмечено, что рублевые вкладчики начинают уводить свои сбережения, если депозитные проценты опускаются ниже 35. Только при таком уровне и выше вкладчики принимают на себя рублевые депозитные риски, исходя из темпов девальвации белорусской национальной денежной единицы. С каждыми валютными торгами курс доллара бьет новый исторический рекорд и достиг уже практически психологической отметки 10.000 рублей. Поэтому можно утверждать, что по итогам 1-го квартала макроэкономические условия для снижения банковских кредитных процентов не сложились.

Только за март месяц золотовалютные резервы Беларуси сократились на 428,5 млн долларов, до 5,7 миллиарда. А с начала года они усохли аж на 935,8 млн, то есть без малого на миллиард долларов. Валютные резервы продолжает подрывать падение экспорта. За январь-февраль по сравнению с аналогичным периодом прошлого года экспорт нефтепродуктов снизился на 12,7%, или на 266,7 млн долларов, а экспорт калийных удобрений — на 24,5%. При этом средняя их цена упала на 28,3% — последствия калийной войны с "Уралкалием". Товарный экспорт в целом потерял 8,8%. Как можно догадаться, сокращение золотовалютных резервов вызвано не только погашением кредитов, ранее взятых у МВФ, у других кредиторов, но и необходимостью поддержания курса белорусского рубля в виде его плавной, но уверенной девальвации. К примеру, Центробанк России пошел на резкую девальвацию своей денежной единицы, и это вызвало уже легкую панику у вкладчиков. Курс российского рубля вновь по доллару приблизился к 36 единицам, а по евро — к 50. Под влиянием российско-украинского кризиса российский рынок акций возобновил снижение. В результате вклады физических лиц в российских банках за март сократились на 2%, а спрос на наличную валюту в 1-м квартале увеличился на 19,6 млрд долларов.

На фоне таких "достижений" белорусской экономики ее руководство, наверное, даже не будет и заикаться о возможности нового кредита от МВФ. Бесполезно. Встретилито приезд миссии, считай, с пустыми руками. А потому по итогам визита миссия Фонда, скорее всего, даст в сотый раз известные рекомендации типа ужесточения монетарной политики, проведения структурных реформ и т.п., которые белорусские экономические власти, как всегда, лишь примут к сведению. И только. А властям остается надеяться. На оставшуюся часть обещанного Россией двухмиллиардного кредита, первый транш которого в размере 440 млн долларов поступил еще в декабре прошлого года. На то, что в России будет экономический рост. На то, что она отменит перечисление пошлин от экспорта белорусских нефтепродуктов в свой бюджет. В конце концов, надеяться на Бога.

## Знайшлі крамолу?

*Пасля даволі працяглай паўзы ў ліставанні Марына Адамовіч атрымала ад свайго мужа — палітвязня* ***Міколы Статкевіча*** *адразу некалькі лістоў. У іх вязень, як звычайна, бадзёра выказваецца пра сваё здароўе, а таксама закранае шэраг актуальных праблем.*

Але, як высветлілася, некалькі лістоў былога кандыдата ў прэзідэнты да адрасата не дайшлі.

— Як толькі публічна агучваецца чарговая прапанова напісаць прашэнне, у яго заўсёды пасля гэтага пачынаюцца пэўныя праблемы, — кажа Марына Адамовіч. — Прынамсі, на гэты раз пасля выступлення ў дзень так званых мясцовых выбараў некалькі лістоў я не атрымала, яны былі канфіскаваны. І на заяву Міколы аб прычынах гэтай канфіскацыі начальнік турмы, дарэчы, на добрай беларускай мове адказаў яму, што не абавязаны тлумачыць прычыны канфіскацыі, хаця гэта не зусім адпавядае заканадаўству.

Жонка расказала, што Мікалай Статкевіч у сваіх апошніх лістах закранае сітуацыю ва Украіне. Ён піша, што "Расія адхапіла ў выглядзе Крыма кавалак зямлі. Раней крытыкаваў амерыканцаў за падзеі ў Іраку і Сербіі, але ЗША не сталі ствараць там новыя штаты. А вось ад бедных і недэмакратычных краін можна чакаць любых сюрпрызаў", — прыводзіць словы Статкевіча Марына Адамовіч.

ПАЛІТВЯЗНІ

## Узмацніўся ціск на Яўгена Васьковіча

Пагоршылася сітуацыя ў палітвязня **Яўгена Васьковіча**. Як паведамляюць ягоныя паплечнікі з аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", на Яўгена адміністрацыя магілёўскай турмы №4 пачала аказваць усебаковы ціск праз асуджаных.

Калі раней Яўгена бясконца змяшчалі ў штрафны ізалятар, абмяжоўвалі ў прадуктовых перадачах і спатканнях, то цяпер задзейнічалі іншых асуджаных. Паплечнікі адназначна звязваюць гэта са спробамі прымусіць Яўгена напісаць прашэнне аб памілаванні напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі.

Нагадаем, што Яўгена Васьковіча затрымалі 17 студзеня 2011 года ў Магілёве і абвінавацілі ў нападзе на будынак КДБ у Бабруйску, які адбыўся ў ноч з 16 на 17 кастрычніка 2010 года. У нападзе ніхто не пацярпеў, а рэальныя страты склалі ўсяго 253 тысячы беларускіх рублёў і былі кампенсаваны. Нягледзячы на гэта, Яўгена Васьковіча суд асудзіў на сем (!!!) год зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

У сваім апошнім слове хлопец назваў сябе ліцвінам і дадаў, што яго святы абавязак — бараніць нацыянальныя беларускія каштоўнасці: "За іх я памерці гатовы, бо жыццё кароткае, а радзіма вечная". Скончыў Васьковіч сваё кароткае выступленне на судзе воклічам "Жыве Беларусь!".

## Новы адрас Гайдукова

Палітвязень **Андрэй Гайдукоў**, паводле звестак праваабаронцаў, пераведзены з калоніі ў Магілёве ў папраўчую калонію "Віцьба-3".

8 мая заканчваецца тэрмін яго-нага зняволення, і таму прычыны такога паспешлівага пераводу патлумачыць цяжка. Магчыма, перад вызваленнем на палітвязня ўзмацняецца ціск, і паколькі следства над ім і сам суд адбываліся ў Віцебску, дык, верагодна, мясцовыя сілавікі пажадалі трымаць Гайдукова "пад рукой", у калоніі з больш жорсткім рэжымам.

Нагадаем, што Гайдукоў быў узяты пад варту 8 лістапада 2012 года па гучнай шпіёнскай справе, якая да суда не дайшла, бо проста развалілася. У выніку Гайдукова асудзілі па частцы 1 артыкула 14 і артыкуле 356-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы) да 1,5 года пазбаўлення волі.

ЧУЛІ?

## Летам сярод адпачываючых у беларускіх санаторыях 80—90 працэнтаў — расіяне

*— У летні сезон 80, а то і 90 працэнтаў пастаяльцаў у беларускіх санаторыях — гэта расіяне,* — кажа эксперт у галіне турызму **Лілія Кобзік.** — *Беларусы адпачываюць па рэшткавым прынцыпе: што расіяне не выкупілі, забіраем мы. У міжсезонне попыт на нашы здраўніцы ў расіян падае. Вось тады ўласнікі санаторыяў і дамоў адпачынку маюць магчымасць даціраваць сваім супрацоўнікам пуцёўкі. Таму з лістапада па сакавік, за выключэннем навагодніх святаў, у беларускіх санаторыях могуць адпачываць беларусы.*

Паводле слоў Генадзя Балбатоўскага, дырэктара Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва, у мінулым годзе ў беларускіх санаторыях адпачыла больш за 230 тысяч іншаземцаў. Гэта амаль удвая больш, чым пяць гадоў таму. У 2008 годзе ў беларускіх санаторна-курортных арганізацыях прайшлі лячэнне і аздараўленне 106 тысяч іншаземцаў, у 2009- м — прыкладна 130 тысяч.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

# Расправа?

*С 1 апреля находится под стражей директор частного информационно-просветительского учреждения (ЧИПУ) "Платформ инновейшн"* ***Андрей Бондаренко.*** *Сначала его задержали якобы за совершение административного правонарушения — за хулиганство, а потом предъявили обвинение по трем эпизодам уголовных деяний. "Народная Воля" обратилась за комментариями к известному юристу, доктору юридических наук, профессору* ***Михаилу ПАСТУХОВУ.***

**— Михаил Иванович, верите ли вы в обоснованность предъявленного Андрею Бондаренко обвинения?**

— Не верю. Я знаю Андрея как порядочного и честного человека, как правозащитника, который отстаивает права людей, необоснованно привлеченных к уголовной ответственности. Возглавляемая им организация много сделала в плане изучения ситуации в местах лишения свободы. Были вскрыты многочисленные факты применения пыток, жестокого и бесчеловечного обращения с заключенными и осужденными. Так, широкую известность получил факт смерти в СИЗО №1 г.Минска Игоря Птичкина. На теле погибшего родственники обнаружили гематомы, ссадины, следы от наручников, переломы ребер, перелом левой руки. В то же время по официальной версии Игорь Птичкин умер из-за проблем с сердцем. Правозащитники по этому поводу высказали свой протест, организовали пикет.

Достоянием гласности стал мониторинговый отчет о ситуации с соблюдением прав заключенных в период расследования, судебного разбирательства и исполнения мер уголовной ответственности в 2012—2013 гг., подготовленный организацией "Платформ инновейшн". Он основан на фактах и свидетельствах лиц, прошедших "круги ада" в наших местах лишения свободы. Конечно, такие "картинки" не могли понравиться представителям "компетентных органов". Вполне вероятно, что они могли "обидеться" на Андрея Бондаренко. На мой взгляд, его задержание и арест — не что иное, как расправа за активную правозащитную деятельность.

**— Получается, что правозащитникам, как и политикам, жить в Беларуси небезопасно. В любой момент гражданина с открытой жизненной позицией, которая расходится с официальной линией, могут схватить неизвестные люди и обвинить в каком-нибудь правонарушении... Как можно противостоять такому произволу?**

— Следует признать, что произвол стал "в законе". Провокации заранее готовятся, санкционируются и позднее получают "зеленую улицу" на следствии и в суде. Уже сейчас можно прогнозировать, что исходя из санкций статьи 339 УК ("Хулиганство") А.Бондаренко обречен на получение срока от трех до пяти лет лишения свободы.

Безусловно, это кажется чудовищным в условиях, когда мы якобы строим демократическое правовое государство, когда у нас создан Следственный комитет, когда приняты меры по совершенствованию судебной системы. Неужели можно вот так, по надуманным обвинениям, привлечь к уголовной ответственности и осудить невиновного человека? Лично мне нравится позиция Николая Автуховича, высказанная им в одном из интервью на "свободе": надо всем миром сопротивляться произволу со стороны властей. Причем сопротивляться сообща, всем миром. Тем самым мы будем формировать гражданское общество, приближать реформы. Я готов дать поручительство органам следствия за законопослушное поведение Андрея Бондаренко, если его освободят из-под стражи. И предлагаю другим гражданам присоединиться к кампании "За свободу Андрею Бондаренко". Если за его освобождение подпишутся тысячи граждан, то об этом факте будет знать весь мир. Тогда органы власти задумаются, какое решение принять по этому делу.

**— Однако ситуация в наших колониях и тюрьмах, судя по информации ЧИПУ "Платформ инновейшн", остается неприглядной. Как ее можно изменить?**

— Реформы давно назрели и не только в так называемой пенитенциарной системе, но и во всех сферах государственной и общественной жизни. Что касается мест лишения свободы, то условия нахождения в них надо привести в соответствие с Минимальными стандартными правилами обращения с заключенными, принятыми в рамках ООН еще в 1955 году. Департамент исполнения наказаний (ДИН) МВД Республики Беларусь также надо реформировать, сделав его самостоятельным ведомством при правительстве или отдельным департаментом в структуре Министерства юстиции. В любом случае этот орган управления должен находиться под парламентским и общественным контролем. Кроме того, надо принципиально пересмотреть действующий Уголовно-исполнительный кодекс и ведомственные акты, которыми определяются правила внутреннего распорядка в местах заключения, колониях, тюрьмах. Необходимо построить современные здания для отбывания наказания в виде лишения свободы.

**— Михаил Иванович, что вы посоветуете Андрею Бондаренко, если он прочитает эту публикацию?**

— Не падать духом, изучать особенности наших мест заключения и думать, как их изменить. В перспективе он может рассчитывать на повторную реабилитацию (напомню, один раз А.Бондаренко уже провел почти два года под стражей и добился своего оправдания и даже выплаты компенсации в сумме 100 миллионов рублей). Мне кажется, что когда-то А.Бондаренко будет подходящей кандидатурой на должность начальника ДИН.

**Беседовал Александр НИКОНОРОВ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Іван ЦІХАН: «Пакуль хочацца аднаго — каб пакінулі ў спакоі»

*Вядомы беларускі кідальнік молата* ***Іван ЦІХАН,*** *якога дыскваліфікавалі за ўжыванне допінгу, можа вярнуцца ў вялікі спорт ужо ў жніўні гэтага года. Але ці збіраецца?*

Іван Ціхан пакараны двухгадовай дыскваліфікацыяй за выкарыстанне забароненых прэпаратаў падчас Алімпійскіх гульняў-2004 у Афінах і чэмпіянату свету-2005 у Хельсінкі.

Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі не стала ўжываць пажыццёвую дыскваліфікацыю ў адносінах да беларускага спартсмена. Тэрмін пакарання адлічваецца ад 3 жніўня 2012-га і заканчваецца 3 жніўня гэтага года.

*"Калі з'явіцца магчымасць папрацаваць з замежнымі спартсменамі, я прыму гэтую прапанову, але гэтая трэнерская дзейнасць ні ў якім выпадку не будзе на шкоду мясцовым дзеткам, якіх я трэнірую зараз",* — распавёў журналістам 38-гадовы лёгкаатлет.

А вось на тэму магчымасці вяртання ў вялікі спорт Іван наогул не хоча гаварыць.

*"Пакуль хочацца аднаго — каб пакінулі ў спакоі,* — прызнаўся Іван Ціхан "Народнай Волі". — *А далей самі пабачыце, як будзе складвацца мая кар'ера".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЛІЦ

***Толькі ўчора Уладзімір Пуцін нарэшце прызнаў, што Крым не сам па сабе вырашыў аддзяліцца ад Украіны і што спачатку на паўвостраў былі ўведзены расійскія войскі. Да гэтага, заўважце, Расійская Федэрацыя катэгарычна адмаўлялася прызнаць людзей у камуфляжы і без апазнавальных знакаў, якія дзейнічалі ў Крыме, сваімі. Зараз такія ж "зялёныя чалавечкі" спрабуюць узарваць Данбас. І тая ж самая Расія робіць выгляд, што ніякага дачынення да ўсяго гэтага не мае. У сувязі з гэтым "Народная Воля" вырашыла задаць пытанне лідарам беларускіх палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў:***

# Калі заўтра «зялёныя чалавечкі» з'явяцца ў Беларусі, ці зможа ваша партыя (аб'яднанне) ўзняць народ на адпор?

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

— Калі да вас у хату залез бандзюган з нажом ці з тапаром, то што вы будзеце рабіць? Тое ж тычыцца і краіны, калі туды залезлі "чалавечкі" ў зялёным ці чорным камуфляжы. Мы будзем бараніць свой дом! Гэта ж відавочна! У нас у кожнага дзяды служылі хто ў войску, хто ў партызанах — так што навыкі ў нас ёсць на генетычным узроўні.

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, намеснік старшыні грамадскай кампаніі "Гавары праўду!":**

— Адпор арганізоўвае сам народ. Чаканне, што ўсё нехта зробіць за нас — Плошчу, пратэст, дасць адпор ворагу, тут не пройдзе. Даволі часта людзі робяць усё па прынцыпе: няхай там нехта высоўваецца, а я пабуду дома і пагляджу, як яно там у іх атрымаецца. Я ўпэўнены, што ў нас будзе арганізацыйны рэсурс і структура, якая зможа хутка мабілізавацца. Грамадскія саветы, якія мы цяпер арганізоўваем, працуюць з людзьмі, і мы іх абавязкова задзейнічаем. За сябе асабіста магу сказаць: я пайду бараніць радзіму ў першых шэрагах, няважна, у якім чыне. Іншая справа, што ўсе размовы пра хуткае стварэнне нацыянальнай гвардыі (як ва Украіне) — гэта ўсё не сур'ёзна. На практыцы такія рэчы не ствараюцца за тыдзень ці нават за месяц. Нядаўна мы правялі дыскусію пра войска. Галоўны момант — фарміраванне тэрытарыяльнай абароны Беларусі. Мы даслалі запыт у Міністэрства абароны для адкрытай дыскусіі па гэтым пытанні. Мы нават гатовы ўключыцца ў работу і дапамагаць, дзе трэба, Міністэрству абароны. Бо на практыцы мы маем прафанацыю, калі губернатары атрымалі генеральскія лампасы. Трэба сур'ёзна падыходзіць да пытання, каб абараніцца ад зялёных, чырвоных, сініх — любых чалавечкаў, якіх мы тут не чакаем.

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ, намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі:**

— Я вас запэўніваю: пакуль тут, у Беларусі, існуе ЛДПБ, ніякіх "зялёных чалавечкаў" тут не будзе. У нас моцная краіна ў адрозненне ад Украіны. І ўкраінскі сцэнарый тут адбыцца не зможа. Калі ж і з'явіцца такая пагроза, то вельмі хутка так усё зробім, што наша Беларусь будзе незалежнай і суверэннай, і ніякія чалавечкі тут не пройдуць.

**Ігар ЛЯЛЬКОЎ, намеснік старшыні Партыі БНФ:**

— Думаю, што сіл адной Партыі БНФ не хопіць. Але калі мы зможам аб'яднаць усе здаровыя сілы ў нашай краіне, а іх не так мала, то Партыя БНФ можа стаць цэнтрам такога аб'яднання. Трэба аб'ядноўвацца з усімі незалежніцкімі сіламі. Разам з народам нас хопіць.

**Георгій АТАМАНАЎ, старшыня Камуністычнай партыі Беларусі:**

— Якія "зялёныя чалавечкі"?! Няма ніякіх "зялёных чалавечкаў"! Я разумею, на што вы намякаеце. Ніякія вайскоўцы без апазнавальных знакаў нікуды не ўваходзілі! Вы на лецішча ездзіце? Дачнікі не ў камуфляжы туды едуць, ці, напрыклад, у лес ходзяць? Пры чым тут вайскоўцы? Камуфляжная форма прадаецца ў любой краме. Я ўпэўнены, што ніякага нападу на Беларусь не адбудзецца. Гэта выключана.

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя":**

— Калі Беларусь будзе пазбаўляцца незалежнасці, абавязак кожнага мужчыны — абарона краіны. Гэты сцэнарый не выглядае сёння такім ужо фантастычным, і "зялёныя чалавечкі" могуць залезці сёння ў наш дом. Але калі што — мы будзем ладзіць абарону ўсімі сродкамі.

Сённяшняя Беларусь вельмі падобна на цэнтральную Украіну, напрыклад, на Палтаўшчыну. І мы бачым, як там арганізоўваецца адпор. Думаю, што і ў нас абавязкова людзі ўзнімуцца, а мы будзем дапамагаць людзям самаарганізоўвацца.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДИАГНОЗ

## Немедленно в больницу!

*В течение первых трех часов после инсульта в медицинские учреждения Минска поступает только треть пациентов, сообщила главный внештатный невролог Комитета по здравоохранению Мингорисполкома* ***Анна Астапенко****. Между тем важно, чтобы каждый, у кого появились признаки этого заболевания, был доставлен в больницу в течение четырех часов.*

Признаками инсульта являются внезапное онемение или слабость лица, руки, ноги, неожиданные затруднения речи, резкое ухудшение зрения, внезапное нарушение координации движений, головокружение, резкая головная боль.

*"Больного с такими признаками очень важно как можно быстрее доставить в больницу",* — сказала невролог.

Такая срочность связана с тем, что только в течение четырех часов после инсульта можно начать специфическое лечение — тромболизис, при котором растворяется тромб и восстанавливается кровоток в пораженных сосудах.

Метод тромболизиса применяется в столице в больницах №№ 5 и 9 и в Больнице скорой медицинской помощи. За прошлый год тромболизис был проведен 51 пациенту. Анна Астапенко отметила, что это лечение дорогостоящее — одна доза стоит порядка 500 долларов. По словам специалиста, лекарство для тромболизиса в наличии есть, случаев отказа в проведении лечения из-за отсутствия медикаментов не было.

Небольшое число проведенных процедур врач объяснила, во-первых, тем, что во всем мире только 3—4% пациентов с инсультом получают этот вид лечения из-за ряда противопоказаний для него. Во-вторых, очень многие больные инсультом поступают в больницы слишком поздно...

Всего в 2013 году инсульт перенесли 3794 жителя столицы, в том числе 3619 больных артериальной гипертензией (АГ). От инсульта в 2013 году умерло 1385 человек (в 2012-м — 1568), большинство (более 92%) из которых страдали артериальной гипертензией.

**Елена СПАСЮК.**

З ПІСЬМА

## Не «жоўтая», а сапраўды народная

Чаго толькі не пачуеш ад праўладных прапагандыстаў! Маўляў, "Народная Воля" і іншыя незалежныя выданні з'яўляюцца "жоўтай" прэсай.

Во парадокс — для сённяшняй улады "Народная Воля" "жоўтая", а для нас, чытачоў, самая жаданая і запатрабаваная. Яна не адмахваецца ад вострых тэм, крытыкуе чыноўнікаў, не звяртаючы ўвагі на іх рэгаліі. "Народная Воля" не выконвае буферныя функцыі, як гэта ўласціва дзяржаўным газетам. Ці не таму і прыклейваюць балбатуны-прапагандысты розныя ярлыкі самай прынцыповай, самай справядлівай газеце? А людзі ведаюць, дзе шукаць праўду — у "Народнай Волі"!

**Міхаіл Іванавіч ХАХЛОЎ, ваенны пенсіянер.**

*г.Ліда.*

РУБАМ!

## Ці не патыхае гэта карупцыяй?

У рэдакцыйнай пошце апынуліся лісты, падпісаныя выконваючым абавязкі дырэктара дзяржаўнага ўнітарнага прадпрыемства "Жыллёвае рамонтна-эксплуатацыйнае аб'яднанне" Цэнтральнага раёна г.Мінска сп. Собалем і дырэктарам КУП "ЖЭУ №71 ЖРЭА Першамайскага раёна г.Мінска сп. Мазалеўскім. Яны адрасаваны шэрагу кіраўнікоў арганізацый. Чыноўнік Собаль прадпісвае ім тэрмінова *"установить урну у входа в арендуемое Вами нежилое помещение. Образец урн согласован с Комитетом архитектуры и градостроительства Мингорисполкома"*. І да афіцыйнай дэпешы дадатак у выглядзе ксеракопіі фота урны з указаннем яе кошту — 5 мільёнаў 510 тысяч 360 рублёў. Залатая урна!

І тут жа даюцца каардынаты таго, у каго трэба купіць рэкамендуемую урну, — у ААТ "Вітрум Кліма", адрас — вул.Клары Цэткін, 18.

Ці не патыхае гэта карупцыяй, спадарства?

**Віктар КУЗЬМЯНКОЎ.**

**ПРЕДПИСАНИЕ:**

КУП «Жилищно-эксплуатационный участок № 71 ЖРЭО Первомайского района г. Минска» поручает Вам **в срок до 20.04.2014г.** приобрести и установить уличные урны, образец которых согласован комитетом архитектуры и градостроительства Мингорисполкома.

В случае невыполнения данного предписания к Вам будут применены меры административного воздействия.

Директор КУП «ЖЭУ № 71 ЖРЭО Первомайского района г. Минска — В.О. Мозолевский

Вручил: (подпись) — А.Д. Шлеменкова

Получил: (подпись) (ФИО)

| № | Наименование | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Мусорник Mini Plaza, Glasdon (Англия) | 1 | 445 | 445 | 89 | 534 |

*Условия поставки:*

В цену предложения включены: таможенная очистка, НДС, доставка до объекта.

Условия оплаты : 100 % предоплата.

*Коммерческое предложение по установке мусорной корзины*

| № | Наименование | Кол-во/час | цена за единицу, бел.руб | итого, бел.руб | сумма НДС, ставка 20%, бел.руб | Итого с НДС, бел.руб |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Установка мусорной корзины | 1 | 180000 | 180000 | 36000 | 216000 |

Срок поставки: Просим Вас разместить заказ до 10 апреля для того, чтобы привезти их до 30 апреля.

*С уважением,*
*ООО Витрум Клима*
*Специалист по маркетингу Анна Кищиц*
*+375 (29) 105-08-60*

ООО «Витрум Клима»
ул. К.Цеткин, 18
220004 г. Минск
Республика Беларусь
тел./факс: +375 17 211-03-32
info@vitrumgroup.by
www.vitrumgroup.com

vitrum

ЗАПРАШЭННЕ

## Фотакарткі ручной расфарбоўкі...

***У рамках выставы "Іосіф Гашкевіч: дыпламат, вучоны-арыенталіст" у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася фотаэкспазіцыя са збору Музея гісторыі фатаграфіі (г.Кракаў, Польшча), прысвечаная Японіі канца XIX стагоддзя.***

Адкрыццё дадзенай выставы не выпадковае. Беларус Іосіф Гашкевіч прыўнёс шмат новага ў жыццё жыхароў японскага горада Хакадатэ. Працуючы там на пасадзе першага расійскага консула ў Японіі, ён не толькі адкрыў рускую школу, бальніцу пры консульстве, але і пазнаёміў японцаў з мастацтвам фатаграфіі. Па сённяшні дзень адзін з накірункаў у фотамастацтве Японіі называецца хакадацкім.

Унікальныя фотаздымкі, прадстаўленыя на выставе, у большасці сваёй невядомых аўтараў. Выстава падрыхтавана супрацоўніцай кракаўскага Музея гісторыі фатаграфіі **Монікай Козень**. Куратар выставы мела на мэце пазнаёміць з першапраходцамі японскай фатаграфіі. Асаблівасць фотаздымкаў — у іх далікатнай ручной расфарбоўцы, якая надае адбіткам маляўнічасць.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь
...става са збору Музея гісторыі фатаграфіі, г. Кракаў

ПАЗІЦЫЯ

# У Беларусі трэба не АЭС будаваць, а аднаўляемую энергетыку развіваць

Набліжаецца трагічная ў гісторыі Беларусі дата 26 красавіка. У гэты дзень у 1986 годзе на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адбылася буйнейшая ў свеце тэхнагенная катастрофа, наступствы якой з вялікімі стратамі яшчэ доўга будуць перажываць многія пакаленні людзей. Але самыя вялікія страты ад той аварыі ўжо панесла і працягвае несці Беларусь, на тэрыторыі якой выпала найбольшая колькасць радыеактыўных рэчываў. Сапраўдныя вынікі Чарнобыльскай катастрофы ўладамі замоўчваюцца, але ўвесь свет ужо зразумеў, што наступствы падобных катастроф пераадолець немагчыма, як і немагчыма прадухіліць іх нават самым тэхналагічна развітым краінам. Таму японскія ўлады адразу пасля аварыі на АЭС "Фукусіма-1" вырашылі паступова адмовіцца ад выкарыстання атамных станцый у нацыянальнай энергетыцы. Аднак вялікія выдаткі, звязаныя з заменай электраэнергіі, выраблямай на АЭС, на электраэнергію, выраблямую іншымі крыніцамі, за апошнія тры гады прывялі да павелічэння гандлёвага дэфіцыту ў краіне. Таму японскі ўрад у красавіку 2014 года зацвердзіў новы план развіцця нацыянальнай энергетыкі, які прадугледжвае часовы перазапуск спыненых раней АЭС пасля праверкі іх бяспекі. У той жа час новы план прадугледжвае працу над скарачэннем залежнасці краіны ад ядзернай энергіі, перадае агенцтва Кіода.

Раней рашэнне пра паступовае закрыццё атамных станцый прыняла Германія. Пасля ўсенароднага абмеркавання на нацыянальных рэферэндумах ад атамнай энергетыкі адмовіліся Аўстрыя і Італія. Пры гэтым у Аўстрыі поўнасцю гатовы рэактар так і не быў уведзены ў эксплуатацыю, а Італія на працягу года пасля рэферэндуму закрыла ўсе свае АЭС. Паступова адмаўляюцца ад ядзернай энергетыкі і іншыя краіны (Бельгія, Нідэрланды). Нарвегія, якая была трэцяй краінай у свеце (пасля ЗША і СССР), што паспяхова запусціла доследны ядзерны рэактар, хоць і праводзіць ядзерныя даследаванні, але ядзерную энергетыку як галіну прамысловасці не развівае.

Сусветныя тэндэнцыі развіцця энергетыкі пераканаўча сведчаць аб бесперспектыўнасці атамных электрастанцый. Доля электраэнергіі, выраблямай на АЭС, у сусветным энергетычным балансе ў 1993 годзе складала 17 працэнтаў, да канца 2012 года яна зменшылася да 11 працэнтаў. Паводле прагнозаў міжнародных экспертаў, у 2030 годзе доля АЭС у сусветным энергабалансе не перавысіць 5 працэнтаў.

У той час, як многія краіны свету адмаўляюцца ад атамнай энергетыкі, выводзяць з эксплуатацыі АЭС, сённяшняе кіраўніцтва Беларусі насуперак здароваму сэнсу і нацыянальным інтарэсам беларускага народа будуе ў нашай краіне па сумніўнай расійскай тэхналогіі атамную электрастанцыю.

Каб апраўдаць свае паводзіны, кіраўніцтва краіны распаўсюджвае фальшывыя міфы пра нібыта вялікую карысць, якую прынясе беларускаму народу АЭС, зрабіўшы яго шчаслівым. Вось галоўныя з гэтых міфаў.

### Міф першы
### *АЭС дапаможа зменшыць энергетычную залежнасць ад Расіі*

Гэта няпраўда. АЭС не толькі не зменшыць энергетычную залежнасць Беларусі ад Расіі, але яшчэ і больш павялічыць гэтую залежнасць, бо ў Беларусі прыродны уран не здабываецца. Яго давядзецца купляць толькі ў Расіі па пастаянна ўзрастаючых цэнах. Акрамя таго, у Беларусі няма ні досведу, ні спецыялістаў у галіне атамнай энергетыкі. Усю працу па будаўніцтве, запуску, абслугоўванні, кантролі, рамонце і вывадзе з эксплуатацыі АЭС будуць выконваць расійскія спецыялісты.

### Міф другі
### *На АЭС будзе выпрацоўвацца вельмі танная электраэнергія*

І гэта няпраўда. Атамная энергія ніколі не была таннай. Кошт 1 кВт·г электраэнергіі, выробленай на АЭС, складае 16—20 цэнтаў ЗША, што перавышае кошт электраэнергіі, выробленай на:

— парасілавых станцыях — у 2,3—2,8 раза;

— газамазутных станцыях — у 1,9— 2,3 раза;

— вугальных станцыях — у 1,5—1,9 раза;

— комплексе малых ГЭС або комплексе ветраэнергетычных станцый — у 1,6—2,8 раза (*Энергия и менеджмент, 2002, №3*).

### Міф трэці
### *Пры ўводзе ў эксплуатацыю АЭС ствараюцца магчымасці для экспарту электраэнергіі ў еўрапейскія краіны*

Спадзяванні на продаж электраэнергіі ў суседнія еўрапейскія краіны — марныя. Паводле слоў генеральнага дырэктара "Белэнерга" Я.Воранава, "еўрапейскія суседзі Беларусі зараз сарыентаваны на сумесную працу з энергасістэмай Еўрасаюза, таму яны будуць адмаўляцца ад працы з Расіяй і ад імпарту электраэнергіі з Беларусі".

### Міф чацвёрты
### *Абраны праект АЭС адпавядае самым высокім патрабаванням бяспекі*

Гэта таксама няпраўда. Абраны праект АЭС не адпавядае асноўным патрабаванням бяспекі па наступных прычынах.

Па-першае, будаўніцтва АЭС ажыццяўляецца ў сейсмічна небяспечным месцы. Паводле дадзеных беларускіх вучоных ў галіне геалогіі, у гэтым месцы ў 1908 годзе адбыўся моцны землятрус сілай каля 7 балаў. Няма ніякіх гарантый, што падобны землятрус у тым месцы не паўторыцца.

Па-другое, АЭС будуецца па не праверaным практыкай (эксперыментальным) праекце, што трэба разглядаць як ядзерны эксперымент над краінай і яе народам. Адказнасць за гэты эксперымент поўнасцю кладзецца на сённяшняе кіраўніцтва Беларусі і тых асоб, якія публічна ўжо засведчылі сваю падтрымку гэтаму эксперыменту.

Па-трэцяе, на кожнай АЭС у выніку расшчаплення ядра ўранавыя стрыжні пераатвараюцца ў высокарадыеактыўныя адходы, якія ўяўляюць вялікую небяспеку для жыцця. Таму на працягу многіх соцень гадоў яны павінны захоўвацца ў магільніках, надзейна абароненых ад людзей, жывёл і раслін. АЭС эксплуатуюцца ўжо больш за 50 гадоў, але яшчэ ніхто не прапанаваў надзейнага спосабу пахавання радыеактыўных адходаў. Праектам будуемай АЭС вырашэнне гэтай праблемы таксама не прадугледжана.

Калі б у нашай краіне быў паўнавартасны парламент, хаця б такі, як Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га склікання, то ўсе праблемы, звязаныя з будаўніцтвам АЭС, ён абмяркоўваў бы з удзелам навукоўцаў, спецыялістаў, экспертаў. Толькі пасля ўсебаковага публічнага абмеркавання ў парламенце пытанне аб АЭС можна было б выносіць на рэферэндум. Але ніяк нельга было дазваляць адной асобе, хай сабе і вельмі высока пастаўленай, прымаць такое адказнае, лёсавызначальнае рашэнне.

З эканамічнага пункту гледжання крэдыт на будаўніцтва АЭС у суме 10 млрд долараў — гэта вельмі цяжкі хамут на шыю беларускага народа.

Мясцовасць, на якой будуецца АЭС, найбольш экалагічна чыстая. Тут захавалася багатая культурная, духоўная, архітэктурная спадчына, якую стварылі і пакінулі нашы продкі, а касцёл у Гервятах — адзін з найпрыгажэйшых у Еўропе. У гэтай мясцовасці захаваліся вялікія прыродныя багацці. Эфектыўнае выкарыстанне ўсёй гэтай спадчыны можа прынесці нашай краіне значна больш карысці, чым сумніўная рэалізацыя электраэнергіі, выраблямай на АЭС.

Сённяшняе кіраўніцтва краіны тлуміць людзям галовы тым, што быццам бы ў Беларусі няма альтэрнатывы АЭС. Але і гэта няпраўда. Альтэрнатыва АЭС у Беларусі ёсць. І не толькі атамным станцыям, але і іншым энергакрыніцам, у тым ліку і тым, якія працуюць на вуглевадародным паліве. Гэтай альтэрнатывай з'яўляюцца аднаўляемыя крыніцы энергіі (АКЭ). Яны значна больш танныя, чым атамная энергетыка, а галоўнае тое, што гэта самыя бяспечныя і экалагічна чыстыя спосабы атрымання энергіі.

Доля аднаўляемых крыніц энергіі ў свеце пастаянна павялічваецца. У 2008 годзе яна складала 18%, сёння яна дасягнула 20%, а ў 2035 годзе будзе складаць адну трэць.

Асноўнай вартасцю большасці аднаўляемых крыніц энергіі з'яўляецца іх невычарпальнасць, адсутнасць патрэбы ў паліве і экалагічная бяспека.

Акрамя аднаўляемых крыніц энергіі ў людзей сапраўды няма іншай альтэрнатывы надзейнага і невычарпальнага энергазабеспячэння.

Найбольш перспектыўнымі відамі аднаўляемых крыніц энергіі для Беларусі з'яўляюцца біяэнергетыка, ветраэнергетыка, сонечная энергетыка. Да таго ж разгрупаванасць АКЭ скарачае рызыку выпадковых ці наўмысных збояў у электрасетках.

**Біяэнергетыка.** Паводле падлікаў вучоных НАН Беларусі, тэхнічна даступны патэнцыял энергіі біямасы ў Беларусі складае больш за 5 млн тон умоўнага паліва ў год. Выкарыстанне гэтага патэнцыялу дазваляе штогод замяшчаць каля 1,8 млрд м3 прыроднага газу. Біягазавыя тэхналогіі дазваляюць вырабляць электрычную і цеплавую энергію са шкодных для навакольнага асяроддзя рэчываў, такіх як адходы жывёлагадоўлі і харчовай прамысловасці, цвёрдыя бытавыя адходы.

Эксплуатацыя біягазавых установак сведчыць аб высокай іх эфектыўнасці. Так, напрыклад, біягазавы комплекс у СВК "Світанак" Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці агульным коштам 13,5 млн еўра выробляе штогод больш за 40 млн кВт·г электраэнергіі і каля 35 тыс. Гкал цеплавой энергіі. Сабекошт электраэнергіі складае 0,035 долара за кВт·г., а тэрмін акупаемасці — меней за 7 гадоў.

**Ветраэнергетыка.** Тэхнічна даступны патэнцыял энергіі ветра ў Беларусі ацэньваецца ў 1600 МВт з гадавой выпрацоўкай электраэнергіі 2,4 млрд кВт·г, або 6,3% ад усяго аб'ёму спажывання электраэнергіі ў краіне, які складае каля 38 млрд кВт·г/год.

Сёння ў нашай краіне працуе 18 ветраэнергетычных установак (ВЭУ) агульнай магутнасцю каля 6,9 МВт, што складае 0,43% тэхнічна даступнага патэнцыялу.

Практыка выкарыстання ВЭУ ў Беларусі пацвярджае высокую іх эфектыўнасць.

Напрыклад, адна ВЭУ магутнасцю 1,5 МВт, якая працуе ў Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці, выробляе больш за 4 млн кВт·г/год электраэнергіі, сабекошт якой складае 0,0485 долара за /кВт·г.

**Сонечная энергетыка.** Гэта найбольш перспектыўны від энергетыкі. Невыпадкова нобелеўскі лаўрэат Ж.Алфёраў сцвярджае, што будучыня за сонечнай энергетыкай.

Паводле дадзеных, прыведзеных у першым Нацыянальным паведамленні ў адпаведнасці з абавязацельствамі Рэспублікі Беларусь па Рамачнай канвенцыі ААН аб змяненні клімату, гадавое паступленне сумарнай сонечнай радыяцыі на гарызантальную паверхню тэрыторыі Беларусі павялічваецца ў накірунку з поўначы на поўдзень ад 3500 да 4100 МДж/м2, або ад 972 да 1139 кВт·г/м2, што крыху больш, чым на тэрыторыі Германіі.

Для размяшчэння сонечных электрастанцый (СЭС) патрэбны значныя тэрыторыі. Таму СЭС мэтазгодна размяшчаць на тых землях, якія не выкарыстоўваюцца арганізацыямі сельскай і лясной гаспадаркі, арганізацыямі аздараўляльнага, прыродаахоўнага, рэкрэацыйнага і гісторыка-культурнага прызначэння, на землях, якія не выкарыстоўваюцца пад забудову, пад дарогі і для іншых падобных мэт. У Беларусі ў 2013 годзе плошча такіх невыкарыстоўваемых зямель, паводле дадзеных Дзяржаўнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь, складала 660 тыс. га (6,6 тыс. км2).

Пры гэтым неабходна ўлічваць, што пляцоўкі, прызначаныя для размяшчэння СЭС, павінны знаходзіцца ў даступных месцах, недалёка ад спажыўцоў электраэнергіі, ЛЭП (не больш за 3 км). З улікам гэтых патрабаванняў плошча, на якой могуць быць устаноўлены сонечныя панелі, можа скласці прыкладна 10% ад усёй плошчы невыкарыстоўваемых зямель, або прыкладна 660 км2. Пры такіх умовах патэнцыял сонечнай энергіі, тэхнічна магчымы для пераўтварэння ў электраэнергію, складзе 641,5—751,7 млрд кВт·г/год, а з улікам найменшага каэфіцыента карыснага дзеяння сонечных панэляў (0,16) выпрацоўка імі электраэнергіі ў Беларусі можа скласці 100—120 млрд кВт·г/год. Гэта амаль у тры разы перавышае сённяшні аб'ём спажывання электраэнергіі ў Беларусі.

Выкарыстанне такога вялікага патэнцыялу сонечнай энергіі ў нашай краіне толькі пачынаецца. У той час, як, напрыклад, Германія, дзе ўзровень сонечнай радыяцыі нават крыху меншы, чым у Беларусі, ужо асвоіла больш за 17 тыс. МВт сонечнай энергіі.

Інтэнсіўнае развіццё сонечнай энергетыкі стрымліваецца адносна высокім коштам фотаэлектрычных модуляў. Аднак сусветныя тэндэнцыі сведчаць аб высокіх тэмпах зніжэння гэтага кошту. Так, цэны на фотаэлектрычныя модулі знізіліся з 1,95 еўра за Вт у 2009 годзе да 0,7 еўра за Вт у 2013 годзе і працягваюць зніжацца. Паводле ацэнак Еўрапейскай асацыяцыі фотавальтаікі, да 2020 года сабекошт сонечнай энергіі знізіцца да 0,1 долара за кВт·г, што амаль у два разы ніжэй, чым сабекошт энергіі, выраблямай на АЭС.

Распрацоўкі вучоных НАН Беларусі па стварэнні эфектыўных і адносна танных фотаэлектрычных модуляў і сусветныя тэндэнцыі развіцця фотавальтаікі сведчаць пра тое, што сонечная энергетыка ў хуткім часе можа заняць сваё пачэснае месца ў энергетычным балансе Рэспублікі Беларусь.

Але, на жаль, належнай увагі да аднаўляемай энергетыкі ў нашай краіне няма.

Усе намаганні і сродкі ўлада кінула на будаўніцтва АЭС — гэтага рызыкоўнага і вельмі небяспечнага аб'екта. Пры гэтым высокія чыноўнікі чамусьці спяшаюцца, усё робяць з апярэджаннем графікаў будаўнічых работ, быццам бы рыхтуюцца да чарговага з'езда КПСС. Нават прыцягваюць да выканання будаўнічых работ самых ідэалагічна падрыхтаваных асоб з БРСМ.

Гледзячы на тое, што адбываецца вакол будаўніцтва Астравецкай АЭС, немагчыма не ўсклікнуць: "Людзі, апамятайцеся, пакуль яшчэ не позна! Падумайце пра лёс сваіх дзяцей і ўнукаў. Вы яшчэ можаце захаваць для іх гэты апошні чысты куточак беларускай зямлі, захаваць ім здароўе і шчаслівую будучыню, бо адхіліць небяспеку ад сваіх нашчадкаў — гэта святы абавязак кожнага сумленнага чалавека".

**Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ,**
**дэпутат**
**Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**12-га склікання,**
**сябра Апазіцыі БНФ.**

ПРОТЕСТ

## Не окна, а рухлядь...

Дому по улице Орловской в Минске, в котором я живу, уже 52 года. Когда дому было 40 лет, по коллективному заявлению жильцов власти сделали ремонт. Но не капитальный, поскольку в подъездах окна заменили, а в квартирах нет. Да и в подъездах обновили не все окна.

Мы снова написали коллективное заявление. После этого в подъездах заменили все окна, а в квартирах по-прежнему остались старые. Через трухлявые рамы гуляют сквозняки, дождем заливает подоконники, даже снег попадает в комнаты.

В феврале 2009 года, когда дому было 47 лет, мы опять обратились с коллективным заявлением: мол, надо как-то завершить ремонт, поменять окна в квартирах. Нам ответили из Центрального райисполкома, что при ремонте в 2002 году изношенность окон была менее 61 процента, а значит, не было необходимости менять. Тогда почему их заменили в подъездах?

А какая изношенность окон была в 2009 году? Об этом в ответе ни слова, хотя изношенность в то время составляла 71 процент. Теперь же об изношенности окон вообще говорить не приходится — одна рухлядь.

Я обратилась в горисполком — ответ пришел из райисполкома тот же.

Обратилась в Администрацию президента — они отправили заявление в горисполком, а горисполком — в райисполком. Ответ первоначальный.

Тогда я обратилась в Комитет государственного контроля с просьбой проверить, соответствует ли перечень проведенных по нашему дому работ нормативам, определенным для домов, требующих капитального ремонта. Ответили, что подписи в документах о проведении капитального ремонта стоят, значит, все в порядке. Вот так работают в КГК.

В нашей стране, оказывается, можно годами ходить по кругу, не добившись конкретного решения вопроса. Ничего не добилась и я. А когда начала поднимать проблемы более масштабные, со мной прекратили переписку. Вот и вся демократия.

**Эмилия Андреевна**
**КУБЫШТА,**
**ветеран труда.**

*Минск.*

ПО ПОВОДУ

## Не забывайте о тех, кто живет на верхних этажах

Уважаемая редакция!

Обращаюсь к вам от имени жильцов дома №36 по улице Ротмистрова. Начальство нашего ЖЭС №106 проводит собрание за собранием, стараясь получить согласие жильцов на закрытие мусоропровода и строительство специальной контейнерной площадки. По их мнению, мусоропроводы являются основным виновником размножения грызунов (мышей, крыс), которые в свою очередь донимают жильцов нижних этажей.

Спору нет, соседство неприятное. Но есть и другая сторона медали. Многим жильцам по 75—80 лет, а некоторые уже разменяли девятый десяток. Лифты очень часто выходят из строя. Попробуй по лестнице с мусорным ведром спуститься с верхних этажей, а затем еще и подняться.

Самое интересное, что представители санэпидемстанции заявляют, что они бессильны в борьбе с грызунами, так как последние привыкли к ядохимикатам и эффективность санобработок малая. Мы не знаем, так оно или нет, но нам, старикам, от этого не легче. Думая о решении одной проблемы, руководители ЖЭУ не должны создавать другую.

**И.И.ОЛЬШЕВСКИЙ,**
**пенсионер.**

РЕЗОНАНС

## Пример Грузии вдохновляет...

*С большим интересом прочитал на страницах "Народной Воли" интервью экс-президента Грузии Михаила Саакашвили украинскому журналисту Дмитрию Гордону (см.: "НВ" от 11 и 13 апреля 2014 г.).*

Перед нами предстал реальный образ Михаила Саакашвили как гражданина, политика, человека. Отнюдь не сумасброда, который в момент волнения жует свой галстук, а славного сына грузинского народа, который отдал всего себя общественному служению. Он возродил Грузию, поднял ее на европейский уровень. Он вернул грузинам демократию, законность и уважение к власти.

Интервью читается на одном дыхании. Столько интересных фактов, столько снятых масок! Например, эпизоды пятидневной войны России и Грузии, особенности поведения Путина, штрихи портрета Медведева, Назарбаева.

Мне больше понравилась вторая часть интервью "Невозможное — возможно". Здесь рассказывается про путь в политику выпускника факультета международных отношений Киевского университета Миши Саакашвили. Личные качества, образованность, коммуникации подняли его на вершину власти. Но и на посту Президента он остался верным своим убеждениям и не погряз в роскоши и коррупции.

Пожалуй, наибольший интерес вызывает оценка грузинским политиком конфликта между Россией и Украиной. Он полагает, что "в Украине решается не только судьба Украины, но и судьба Грузии, Молдовы, самой России". От себя добавлю — и Беларуси.

Сейчас Михаил Саакашвили занят созданием в США и Европе центров по изучению опыта реформ в Грузии. Такой центр было бы неплохо создать и в Беларуси, чтобы реализовать белорусскую мечту — "людзьмі звацца".

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**гражданин**
**Республики Беларусь,**
**доктор юридических наук.**

ГОНАР АЙЧЫНЫ

# За свабоду ад прыгнёту!

***215 гадоў назад, у сакавіку 1794 года, у Рэчы Паспалітай выбухнула вызваленчае антырасійскае паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам, імя якога сёння шырока ўкаранёнае ў сусветную тапаніміку. Нонсэнс, але беларуса, які ў XVIII стагоддзі жыў ідэямі XX ды змагаўся за свабоду на двух кантынентах, і пры жыцці, і пасля смерці больш шанавалі за мяжой, чым на радзіме.***

## «Нарадзіўся я літвінам»

Дакладныя дата і месца нараджэння Касцюшкі дасюль выклікаюць спрэчкі. Паводле адных крыніц, ён нарадзіўся 30 лістапада 1745 года, іншыя называюць 4 лютага 1746-га. Вядома, што 12 лютага яго хрысцілі ў Косаўскім касцёле як Андрэя Тадэвуша Банавентуру Касцюшку.

Меркаваных месцаў нараджэння Тадэвуша таксама два. Гэта маёнтак Сяхновічы (паблізу Жабінкі на Берасцейшчыне), які далёкі продак Касцюшкі атрымаў ад князя Казіміра IV у 1458 годзе. Ці маёнтак Мерачоўшчына (Марачоўшчына) каля мястэчка Косава (цяпер у Івацэвіцкім раёне), які Людвіг Касцюшка здолеў адсудзіць ва ўладарных Сапегаў.

Затое адносна паходжання пытанняў не ўзнікае. *"Нарадзіўся я літвінам"*, — з гонарам напіша Тадэвуш Касцюшка праз шмат гадоў расійскаму імператару Аляксандру I.



## Гонар — перад усім

Таленавітага хлопчыка спачатку аддалі вучыцца ў школу манаскага ордэна піяраў у мястэчку Любешаў Пінскага павета, потым — у Варшаўскі кадэцкі корпус. Ужо там падлетак вылучаўся з шэрагу аскетычным характарам і надзвычайным пачуццём справядлівасці.

Штодня Касцюшка ўздымаўся а 4-й раніцы і сядаў за кнігі. Калі ж на прыдворным балі кадэта зняважліва штурхнуў падольскі ваявода, той голасна запатрабаваў прабачэння. Сутычку ўбачыў кароль Станіслаў Аўгуст, і ваявода мусіў перапрасіць. З таго дня Касцюшка стаў частым госцем у палатах караля, які запрашаў яго чытаць кнігі. Менавіта рэкамендацыя Станіслава Аўгуста дазволіла выпускніку корпуса капітану Касцюшку працягнуць навучанне ў Парыжы. На двары стаяў 1769 год.

Наш зямляк вывучае інжынерную навуку ў Школе гвардыі ў Версалі і ў вайсковай вучэльні ў Мэсеры. Апроч гэтага, здольны да пэндзля хлопец бярэ ўрокі малявання ў Каралеўскай акадэміі мастацтва.

У 1774 годзе Касцюшка вяртаецца дамоў, але месца ў войску яму не знайшлося. То быў першы, але не апошні халодны прыём на радзіме слыннага сына. У Сяхновічах ён вучыць французскай мове дачок Язэпа Сасноўскага, які калісьці дапамог яму паступіць у кадэты. Настаўнік закахаўся ў 19-гадовую Людвіку, аднак магнат адмовіўся аддаваць дачку за небагатага шляхціца. Тадэвуш з Людвікай рашаюцца на ўцёкі, але пагоня вяртае дзяўчыну. Касцюшку ж пагражае суд...

Якраз у той час да Рэчы Паспалітай дайшлі чуткі, што калоніі ў Новым Свеце паўсталі супраць англічан. Улетку 1776 года Касцюшка скіроўваецца ў Францыю, адтуль — у Новы Свет, дзе 4 ліпеня была падпісана Дэкларацыя незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі. *"Хачу змагацца за незалежнасць Амерыкі"*, — нібыта скажа ён пры сустрэчы галоўнакамандуючаму арміі каланістаў Джорджу Вашынгтону.

## «Усё дзеля выратавання Рэспублікі»

...Гадзіна язды ад Вялікага Нью-Ёрка на поўнач штата. Падобная да серпантыну скалістая дарога, якая адкрывае фантастычны від на маляўнічую Гудзонаву даліну, прывядзе вас да легендарнай Амерыканскай вайсковай акадэміі Уэст-Пойнт, паступіць у якую часам складаней, чым у Гарвард ці Ель. Менавіта тут, на іншым канцы свету, надзвычай моцна адчуваеш беларускую прысутнасць, бо цытадэль Уэст-Пойнт — справа рук героя вайны за амерыканскую незалежнасць (1776—1783) Тадэвуша Касцюшкі. У 1777 годзе шмат у чым дзякуючы непрыступным фартыфікацыям, узведзеным літвінскім палкоўнікам-інжынерам, армія Джорджа Вашынгтона разбіла брытанцаў пад Саратогай, заваяўваўшы афіцыйнае прызнанне ЗША.

Касцюшка займаўся фартыфікацыяй гарадоў і вайсковых лагераў, бліскуча даў рады будаўніцтву ўмацаванняў для абароны Філадэльфіі — тагачаснай сталіцы Штатаў. Ён стаў галоўным інжынерам Паўночнай арміі, якая адбівала напады англічан з боку Канады і Нью-Ёрка, потым — Паўднёвай, у паспяховых дзеяннях якой значную ролю адыгралі распрацаваныя ім пантонныя пераправы. Амерыканцы перамаглі ў вайне, і 13 кастрычніка 1783 года Кангрэс ЗША надаў нашаму земляку званне брыгаднага генерала. За баявыя заслугі Тадэвуш Касцюшка ў ліку трох іншаземцаў быў узнагароджаны найвышэйшым баявым ордэнам Цынцынаці, на якім былі выбіты словы: "Усё зрабіў дзеля абароны Рэспублікі". Касцюшка быў уганараваны амерыканскім грамадзянствам, пажыццёвай пенсіяй і зямлёй.

Джордж Вашынгтон, які ў 1789 годзе стане першым прэзідэнтам Злучаных Штатаў, характарызаваў яго "чалавекам навукі і вышэйшых якасцяў", адзначаючы, што "высока цэніць яго веды, агульныя паводзіны і настойлівасць". Аўтар праекта Дэкларацыі незалежнасці і трэці прэзідэнт ЗША Томас Джэферсан лічыў Касцюшку сваім сябрам.

...Улетку 1784 года генерал вярнуўся ў родную старонку, але тут яго зноў чакала расчараванне. Пяць гадоў прамарнаваў ён у Сяхновічах без справы.

Не шанцавала герою і ў асабістым жыцці. 44-гадовы, ён нарэшце закахаўся ў 18-гадовую дачку пінскага харунжага, але перашкодай зноў стаў бацька, які не пагадзіўся на шлюб. Забыцца на няшчаснае каханне Тадэвушу дапамагло доўгачаканае прызначэнне ў войска Рэчы Паспалітай у чыне генерал-маёра. За выдатныя дзеянні ў расійска-польскай вайне 1792 года Касцюшка быў узнагароджаны ордэнам "Virtuti Militari" і павышаны да генерал-лейтэнанта. Аднак... Пратэстуючы супраць здрадніцкай палітыкі караля Станіслава Аўгуста, якая прывяла ў 1793 годзе Другім падзелам Рэчы Паспалітай, Касцюшка звольніўся з войска і з'ехаў у Еўропу.

26 жніўня 1792 года пастановай Заканадаўчага сходу Францыі літвін атрымаў годнасць ганаровага грамадзяніна гэтай дзяржавы на знак прызнання яго-ных заслуг у барацьбе за волю сваёй Бацькаўшчыны, ідэі роўнасці і свабоды.

Касцюшка ўсё ж згаджаецца ачоліць вызвольнае паўстанне на радзіме. Але з адной умовай: *"Ваяваць толькі за шляхту не буду. Жадаю свабоды для ўсяго народа і толькі для яго гатовы ахвяраваць жыццём"*.

## Паўстанне

24 сакавіка 1794 года антырасійскае вызвольнае паўстанне пад лозунгам "Вольнасць, цэласць, незалежнасць!" выбухнула ў Польшчы, у красавіку — на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Кракаўскі акт паўстання сцвярджаў: *"Мы выбіраем і прызнаём гэтым актам Тадэвуша Касцюшку вышэйшым і адзіным Начальнікам нашых збройных сіл і кіраўніком нашага паўстання"*. Мэтай змагароў было аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 года (да Першага падзелу), вяртанне прынятай у 1791 годзе Канстытуцыі (якая, дарэчы, была першай у Еўропе) і працяг распачатых рэформаў. Для ўзняцца баявога духу была складзена "Песня паўстанцаў":

*Помнім добра, што рабілі,*<br>
*Як нас дзёрлі, як нас білі.*<br>
*Докуль будзем так маўчаці?*<br>
*Годзе нам сядзець у хаце!*<br>
*Нашто землю нам забралі?*<br>
*Пашто ў путы закавалі?*<br>
*Пойдзем жыва да Касцюшкі,*<br>
*Рубаць будзем маскалюшкі!*

Спадзеючыся, што паўстанне перарасце ў рэвалюцыю, 7 мая 1794 года Тадэвуш Касцюшка выдаў Паланецкі ўніверсал, якім абвяшчаў асабістую свабоду сялянам, хоць і пакідаў зямлю за магнатамі і шляхтай. Апошнія ўсяляк перашкаджалі ажыццяўленню ўніверсала. Да сялян закон ці не даходзіў, ці яны папросту яму не верылі. Адсутнасць адзінай мэты і інтарэсаў ва ўсіх удзельнікаў, а таксама колькасная і якасная перавага войскаў Расіі, Прусіі і Аўстрыі прадвызначылі вынік паўстання. У лістападзе яно было задушана.

Праз некалькі месяцаў адбыўся Трэці падзел Рэчы Паспалітай, якая перастала існаваць. Беларускія землі канчаткова трапілі ў кіпцюры расійскага арла.

## Развітанне з радзімай

Лідар паўстання Тадэвуш Касцюшка быў паланёны 10 кастрычніка 1794 года ў Мацяёвіцкай бітве пад Варшавай. Паводле загаду імператрыцы Кацярыны II, яго патаемна перавезлі ў Санкт-Пецярбург, дзе Касцюшка знаходзіўся ў вязніцы да лістапада 1796 года. Свабоду генералу даў новы імператар Павел I. Наўзамен на вызваленне 12 тысяч паўстанцаў Касцюшка прысягнуў на вернасць расійскаму імператару і назаўжды пакінуў радзіму...

Менш за год ён пражыў у Філадэльфіі, дзе Кангрэс выплаціў яму жалаванне ў 22 тысячы долараў. Але, пабачыўшы негрыцянскае рабства, змагар расчараваўся ў амерыканскіх ідэалах і вярнуўся ў Еўропу. Свайму сябру Томасу Джэферсану ён пакінуў запавет выкарыстаць усю сваю маёмасць і сродкі *"на выкуп мурынаў, якія належаць яму самому або іншым, на дараванне ім волі ад майго імя, на навучанне іх рамёствам або іншым навукам, на выхаванне ў іх маральных якасцяў, якія дапамогуць ім стаць добрымі суседзямі, добрымі бацькамі і маткамі, мужамі і жонкамі, на выхаванне ў іх сумленнага стаўлення да грамадзянскіх абавязкаў і перадусім да абароны сваёй свабоды, сваёй краіны і добрага грамадскага парадку, на іх узгадаванне ва ўсім тым, што можа зрабіць іх шчаслівымі і карыснымі"*.

Напалеон Банапарт прапаноўваў Касцюшку ўзняць паўстанне ў Польшчы і ўзначаліць герцагства Варшаўскае, аднак вольналюбівы літвін бачыў у французскім імператары тырана і адмовіўся ад супрацоўніцтва. Адышоўшы ад актыўнай палітыкі і вайсковай справы, Касцюшка па-ранейшаму перажываўся лёсам бацькаўшчыны, разарванай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Двойчы ён звяртаўся да імператара Аляксандра I з надзеяй на адраджэнне Рэчы Паспалітай...

Апошнія гады жыцця Тадэвуш Касцюшка бавіў у швейцарскім горадзе Салюр, адкуль 15 кастрычніка 1817 года выправіўся ў лепшы свет. У чэрвені 1818 года парэшткі генерала былі ўрачыста перапахаваны на Вавелі ў Кракаве.

## Паўсюль, апроч Беларусі

— Ведаў бы ты, як гэтае прозвішча ў нас "каверкаюць", — распавядае мне мой амерыканскі знаёмы — школьны настаўнік Марк, пакуль мы праносімся па адным з велізарных нью-ёркскіх мастоў, названым у гонар нашага земляка, — і "Коскіуска", і "Коскуска"...

Так, янкі, сапраўды, цяжка вымавіць гэтую мудрагелістую славянскую камбінацыю — "Тадэвуш Касцюшка". Аднак помнікі легендарнаму генералу ёсць у дзясятку амерыканскіх гарадоў. У ягоны гонар названы вуліцы амаль у кожным польскім горадзе. А таксама ў Белградзе, Санкт-Пецярбургу, Будапешце, Вільнюсе, Рыа-дэ-Жанейра...

Найвышэйшая гара Аўстраліі носіць імя Касцюшкі...

Ды ўсё гэта не пра нас. У беларускіх вайсковых часцях па-ранейшаму вісяць партрэты з цытатамі душыцеля паўстання 1794 года генерала Суворава, у ягоны гонар названа сталічная вуліца, вучылішча, будуюцца храмы. А помніка Касцюшку па-ранейшаму няма. Дакладней — ёсць, але толькі на тэрыторыі амерыканскай амбасады ў Мінску. Яшчэ ў 2002 годзе Брэсцкі аблвыканкам пастанавіў аднавіць разбураную падчас Другой сусветнай вайны сядзібу Касцюшкаў у Мерачоўшчыне. Аднак сярод першых ахвярадаўцаў на ўзнаўленне сядзібы Касцюшкаў былі... амбасада ЗША і ЮНЕСКА.

*"Наша цяперашняя ўлада — абсалютна дэнацыяналізаваная. Гэтыя людзі прыйшлі з былога камуністычна-камсамольскага дыскурсу, а таму нашы нацыянальныя светачы для іх чужыя героі, якія не датычацца краіны, якую яны будуюць"*, — кажа мне **філосаф Валянцін Акудовіч**.

Няўжо Касцюшка, якім ганарацца Польшча і ЗША, Францыя і Літва, не заслугоўвае годнага помніка ў Беларусі?

**Кастусь ЛАШКЕВІЧ, tut.by.**
*(Друкуецца з невялікімі скарачэннямі.)*

ЧУЛІ?

## Кожны пяты студэнт Мінскага мед-універсітэта — замежнік

*Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт увайшоў у першую тройку ВНУ СНД па прыцягненні студэнтаў з-за мяжы.*

Рэйтынгавае агенцтва "Эксперт РА" склала першы міжнародны рэйтынг вышэйшых навучальных устаноў СНД. У яго ўвайшлі 153 лепшыя ВНУ з Расіі, Украіны, Казахстана, Беларусі, Малдовы, Узбекістана, Азербайджана і Кыргызстана.

Як адзначаюць складальнікі рэйтынгу, поспехі ВНУ СНД па прыцягненні студэнтаў з-за мяжы пакуль даволі сціплыя. Толькі ў 21 ВНУ са спісу лепшых доля замежных студэнтаў перавышае 10%. Найбольшую папулярнасць у замежных студэнтаў сёння маюць медыцынскія ВНУ. У Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце яна складае 19%. Прычым толькі 1% — прадстаўнікі краін СНД. Як пісала ўжо "Народная Воля", год навучання ў Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце для студэнтаў-замежнікаў каштуе 3450 долараў, а на стаматалагічным факультэце — 3820 долараў.

## «Белавія» купляе новыя самалёты

*Паводле слоў міністра транспарту і камунікацый* ***Анатоля Сівака,*** *у канцы красавіка і ў маі ў Мінск прыбудуць два новыя самалёты бразільскай вытворчасці Embraer-195 (107 месцаў) і Boeing 737-300.*

Яшчэ два самалёты плануецца ўзяць у лізінг ва Украіне, з тым каб закрыць заяўкі па чартарных рэйсах. Такім чынам, ужо да лета паветраны флот авіякампаніі "Белавія" будзе налічваць 25 самалётаў.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Не бяссрэбранік

*У мінулым нумары мы паведамілі аб тым, што ў дачыненні да першага намесніка міністра лясной гаспадаркі Фёдара Лісіцы распачалі крымінальную справу за злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. Зараз высветлілася, у чым канкрэтна падазраецца чыноўнік. Лісіца, які стаяў у ведамаснай чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў і пражываў у службовай двухузроўневай кватэры, меў не адзін катэдж і зямельны ўчастак у водаахоўнай зоне.*




Упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС распаўсюдзіла інфармацыю адносна таго, што інкрымінуецца Лісіцу. Здзіўляе не толькі маштаб злоўжыванняў, але і тое, каго ў Беларусі прызначаюць на высокія пасады. Лісіца быў прызначаны першым намеснікам міністра лясной гаспадаркі ў верасні 2010 года спецыяльнай пастановай Савета міністраў.

— *Выкарыстоўваючы свае службовыя паўнамоцтвы,* — паведамляе ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС, — *Лісіца арганізаваў за кошт сродкаў інавацыйнага фонду Міністэрства лясной гаспадаркі неправамернае выкананне рамонту ў прадастаўленай яму двухузроўневай службовай кватэры ў аграгарадку Ждановічы. Добраўпарадкаванне жылля агульнай плошчай 111 кв. м пацягнула незаконнае расходаванне бюджэтных грашовых сродкаў амаль на 300 мільёнаў рублёў.*

*Ён жа, злоўжываючы службовымі паўнамоцтвамі, дзейнічаючы з карыслівай зацікаўленасці, з мая па верасень 2012 года пражываў у нумары "люкс" ведамаснай гасцініцы без аплаты прадастаўленых паслуг.*

*Акрамя таго, устаноўлены супрацьзаконныя дзеянні, учыненыя падазроным, калі ён быў дырэктарам дзяржаўнай лесагаспадарчай установы "Старобінскі лясгас" Салігорскага раёна Мінскай вобласці. У 2005 годзе, злоўжываючы службовым становішчам, ён незаконна завалодаў зямлёй агульнай плошчай 0,95 га і пабудаваў там катэдж. Участак знаходзіўся ў водаахоўнай зоне каля вёскі Ясковічы Салігорскага раёна і адносіўся да земляў дзяржаўнага ляснога фонду, якія былі заняты лясамі першай групы.*

*У выніку незаконнага заняцця і выкарыстання названага зямельнага ўчастка з прычыны знішчэння жывога надглебавага покрыва і дэградацыі зямель навакольнаму асяроддзю нанесена шкода на суму звыш 1,1 мільярда рублёў.*

*У 2008 годзе Лісіца за кошт дзяржаўнай установы, якой кіраваў, пабудаваў для сябе службовае жыллё ў вёсцы Тычыны Салігорскага раёна агульнай плошчай 252 кв. метры. Потым дом у склад службовых жылых памяшканняў дзяржаўнага жыллёвага фонду не ўключаўся, а быў незаконна прыватызаваны і аформлены ў прыватную ўласнасць на льготных умовах.*

Дарэчы, па артыкулах, якія інкрымінуюцца Лісіцу, прадугледжана пакаранне да 10 гадоў пазбаўлення волі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЛАТАРЭЯ




## Дзве машыны за паўгода

Пашанцавала дык пашанцавала! Жыхарка Кобрына Таццяна Смутняк выйграла ў латарэю дзве машыны. Першы падарунак лёсу жанчына атрымала ў верасні мінулага года, калі ў імгненнай латарэі "Мегашанс" выйграла новую Skoda Rapid. А ў лютым гэтага года ёй пашчасціла ў латарэі "Ваша лато". На гэты раз выйгрышам стала машына Hyundai.

Таццяна працуе ў сферы гандлю, яе муж — індывідуальны прадпрымальнік, 10-гадовы сын Уладзіслаў вучыцца ў школе.

— *У латарэі мы гуляем на працягу многіх гадоў*, — расказала мясцовым журналістам шчаслівая ўладальніца двух аўто. — *Тры гады таму поспех упершыню ўсміхнуўся нам — мы выйгралі адзін мільён рублёў. Гуляць будзем і далей.*

СКАНДАЛ

# За што адправілі за краты генеральнага дырэктара баскетбольнага клуба?

*Днямі стала вядома, што па падазрэнні ў крадзяжы сродкаў у асабліва буйных памерах і перавышэнні службовых паўнамоцтваў затрымалі былога генеральнага дырэктара баскетбольнага клуба "Цмокі-Мінск"* ***Канстанціна Шараверу.***



Паведамлялася, што Следчы камітэт завёў крымінальную справу па матэрыялах упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС Мінгарвыканкама. Маўляў, Шараверу пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі. Сума ўрону пакуль не называецца, але былога гендырэктара ўзялі пад варту.

...Канстанцін Мікалаевіч стаяў ля вытокаў стварэння БК "Цмокі-Мінск", клуб выбраў для сябе беларускамоўны шлях развіцця.

*"Калі я пачаў работу ў клубе "Минск-2006" на пасадзе маркетынгавага дарэктара, прапанаваў, каб ён быў перайменаваны ў "Цмокі-Мінск"*, — распавёў "Народнай Волі" дырэктар цэнтра эканамічнага развіцця і спартыўнага маркетынгу клуба **Аляксандр Куль**. — *Хацелася, каб беларускі клуб быў самабытны, з такой жа беларускай назвай. Каб людзі балелі за НАШЫХ! Дарэчы, уся рэклама ў нас ідзе на беларускай мове, буклеты таксама беларускамоўныя"*.

Наколькі мне вядома, беларускамоўнасць "Цмокаў" многім імпануе, але ёсць і такія, хто бачыць у гэтым ледзь не апазіцыйнасць.

Зрэшты, для Канстанціна Шараверы клуб быў як роднае дзіця. Не абыходзілася і без цяжкасцяў. Пасля дэвальвацыі 2011 года працаваць стала складаней, трэба было шукаць грошы, каб выплаціць запазычанасці ігракам.

*"Праблемы заўсёды ёсць і будуць*, — распавядаў тады генеральны дырэктар. — *У мяне неяк была думка ўсё кінуць. Але ў пэўны момант па тэлевізары ўбачыў рэкламу: дзеці выходзяць і гавораць: "Спорт — гэта мужнасць. Спорт — гэта воля. Спорт — гэта сіла". Я заўсёды быў байцом, таму адступаць нельга. Трэба цягнуцца да перамогі. Ёсць людзі, якія ў мяне вераць, вераць у клуб. Я думаю, што здавацца пакуль рана..."*

Некалькі тыдняў таму Канстанцін Шаравера адзначыў 60-годдзе. На ўрачыстай вечарыне ў гонар юбіляра гучалі віншаванні, вядомыя беларускія і расійскія спартсмены, трэнеры, функцыянеры, родныя і сябры жадалі шчасця і поспехаў у рабоце.

*"У 60 гадоў жыццё робіцца яшчэ больш насычаным і цікавым. Поспехаў, Канстанцін Мікалаевіч!"* — прагучалі і такія словы.

Тое, што жыццё ў юбіляра стала больш *"насычаным"*, стала вядома 14 красавіка. Пры гэтым зранку не было ні слова пра затрыманне Шараверы, хоць сайт баскетбольнага клуба паведаміў, што *"заснавальнікі "Цмокі-Мінск" задаволілі заяву Канстанціна Шараверы аб сыходзе са сваёй пасады генеральнага дырэктара клуба з фармулёўкай "па стане здароўя ў сувязі з дасягненнем пенсіённага ўзросту". Выконваючым абавязкі генеральнага дырэктара "Цмокі-Мінск" прызначаны Юрый Шакола"*.

А вечарам з'явілася інфармацыя і пра затрыманне, і пра крымінальную справу, у якой пакуль шмат белых плямаў.

— Зараз абавязкі генеральнага дырэктара выконвае Юрый Шакола, які раней працаваў намеснікам Канстанціна Шараверы, — распавядае **Аляксандр КУЛЬ.** — Адным словам, не новы чалавек. А тое, што Канстанцін Мікалаевіч сабраўся сыходзіць, для мяне наогул было нечаканасцю.

**— Як з ім працавалася?**

— Усялякае здаралася, аднак гэта звычайныя рабочыя моманты — як і ў любым іншым калектыве.

**— Шакіравала навіна аб затрыманні?**

— Безумоўна, ніхто ж не чакаў... А нас аб такіх рэчах зараней не папярэджваюць. Так што "сюрпрыз" быў яшчэ той!

**— Калі праходзіла фінансавая праверка клуба?**

— Яна да гэтага часу працягваецца.

**— Скандал можа адбіцца на камандзе?**

— Наколькі вядома, да клуба прэтэнзій няма, а ёсць пытанні да Канстанціна Мікалаевіча. Таму клубная работа працягваецца. Нам патрэбна заканчваць гэты сезон і рыхтавацца да наступнага.

**Алесь СІВЫ.**

